■ Жанна Юбніцкая

## З БАБРУЙСКАГА ЗАВОДА ТРАКТАРНЫХ ДЭТАЛЯЎ І АГРЭГАТАЎ ЗВОЛЬНЕНЫ АДЗІН З УДЗЕЛЬНІКАЎ САКАВІЦКАЙ ГАЛАДОЎКІ

**Адміністрацыя Бабруйскага завода трактарных дэталяў і агрэгатаў (БЗТДіА) адмовілася з мая прадоўжыць кантракт члену Свабоднага прафсаюза Беларускага (СПБ), удзельніку сакавіцкай галадоўкі на прадпрыемстве грузчыку Віктару Осіпаву, нягледзячы на просьбу калектыва і станоўчую характарыстыку начальніка ўчастка.**

Нагадаем, 25—27 сакавіка старшыня пярвічнай арганізацыі СПБ Міхаіл Кавалькоў і яшчэ 11 цяперашніх і былых работнікаў завода правялі папераджальную забастоўку.

Яе прычынай яны называлі невыкананне адміністрацыяй прадпрыемства дасягнутых 24 студзеня дамоўленасцяў аб пачатку перамоў па калектыўным дагаворы. Сярод патрабаванняў было таксама: спыненне пераследу работнікаў прадпрыемства за ўдзел у дзейнасці СПБ; ліквідацыя дыскрымінацыйных пунктаў калектыўнага дагавору і распаўсюджванне яго дзеяння на ўсіх работнікаў завода; забеспячэнне старшыні пярвічкі беспераашкодным доступам на прадпрыемства. Тады адміністрацыя завода ніяк не адрэагавала на акцыю.

«Непрадаўжэнне кантракта Осіпаву — гэта помста за тое, што ён знаходзіцца ў Свабодным прафсаюзе і браў удзел у галадоўцы», — заявіў Кавалькоў. Ён распавёў, што работнікі ўчастка, дзе працаваў грузчык, — склада металу аддзела матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння (АМТЗ) — падпісаліся пад зваротам да дырэктара з просьбай прадоўжыць кантракт Осіпаву. Выдатную характарыстыку даў працаўніку і начальнік АМТЗ Алег Кавалевіч.

Осіпаў згодны з тым, што яго звальненне з'яўляецца рэпрэсіяй у адказ на яго актыўнасць у працы незалежнага прафсаюза. «Хоць у нас на заводзе наогул праблема звольніцца. Не адпускаюць, калі людзі хочуць сысці. Трымаюць усімі праўдамі і няпраўдамі. А мне ўжо адразу — шчаслівай дарогі», — заявіў Осіпаў. Тым не менш ён не шкадуе, што актыўна выступаў за правы рабочых завода, патрабуючы ад адміністрацыі выканання працоўнага заканадаўства, умоў працы, недапушчэння скарачэння зарплаты.

Звольнены грузчык не выключае, што будзе вымушаны пакінуць Беларусь у пошуках працы.

Нагадаем, што 1 красавіка пасля галадоўкі Міжнародная канфедэрацыя прафсаюзаў запатрабавала ад адміністрацыі прадпрыемства неадкладна спыніць рэпрэсіі супраць членаў СПБ.

ПАЛІТВЯЗНІ

## ПОЛИТЗАКЛЮЧЕННЫЙ АНДРЕЙ ГАЙДУКОВ - НА СВОБОДЕ

**Тюремщики сделали все возможное, чтобы политзаключенного не встретили возле ворот колонии.**



Политзаключенному приказали начать собирать вещи в 6 утра, хотя обычно из колонии выпускают в 11 часов. В 7 часов его посадили в милицейский автомобиль, отвезли на вокзал в Витебске и дали 20 тысяч рублей, чтобы он смог доехать к родственникам, передает «Радыё Свабода».

По телефону он сообщил журналистам, что считает свое уголовное дело полностью полностью сфальсифицированным. По его мнению, это была провокация против его организации.

«Андрея должны были встретить наши родственники, но его отпустили не в 8-9 часов, как обычно, а часов в 7. Поэтому я позвонила и сказала, что встречать уже нет смысла. Со мной сын связался через таксиста, сейчас он уже на пути домой», - рассказала сайту charter97.org его мать Ольга Гайдукова.

Напомним, Андрей Гайдуков был взят под стражу 8 ноября 2012 года, и после следствия, которое проводили сотрудники КГБ, осужден 1 июля 2013 года по части 1 статьи 14 и статье 356-1 Уголовного кодекса Республики Беларусь (покушение на установление сотрудничества со специальной службой, органом безопасности или разведывательным органом иностранного государства) к 1,5 годам лишения свободы.

Приговор ему вынес Витебский областной суд, а заседание проходило в закрытом режиме. Правозащитники считают преследование Гайдукова политически мотивированным, а дело сфальсифицированным.


# НАШ МАГІЛЁЎ

http://gazetanm.eu
№69

Надрукавана на ксераксе.
Наклад 299 ас.
Адрас рэдакцыі: Магілёў, вул. Ленінская, 29.
Распаўсюджваецца бясплатна.
gazetanm.eu@gmail.com

Галоўны рэдактар - Вітольд Няўрыда

Незалежнае грамадска-палітычнае выданне горада. 12 траўня 2014 г.


ГРАМАДСТВА

■ Якуб Корсак

## «ГЕОРГИЕВСКАЯ ЛЕНТОЧКА» РАЗДОРА

**Из-за использования символа победы советского народа над фашистами украинскими сепаратистами, «георгиевская ленточка» стала современным символом сепаратизма и терроризма. От её широкого использования были вынуждены отказаться на официальном уровне и беларуские власти.**





Ведь именно с использованием «георгиевской ленточки» на своих камуфляжных костюмах спецподразделения России осуществили анексию Крыма и разожгли очаг сепаратизма в Восточной Украине.

Несмотря на это ещё не все беларусы поняли значение «георгиевской ленточки». Её всё ещё можно увидеть прикреплённой на автомобили, велосипеды, либо одежду граждан. По инерции некоторые могилёвские торговые сети и общественные организации осуществляли раздачу этих ленточек и верят в то, что таким образам хранят память о великой победе над фашизмом.

Историки утверждают, что так званая «георгиевская ленточка» не имеет ничего общего с символом победы 9 мая, ведь во времена СССР отдельно подобные ленточки не использовались, а ленты на Ордене Славы 1943 года и медали «За победу над Германией» 1945 года назывались гвардейскими.

Однако те, кто воевал на стороне немцев, активно пользовался «георгиевской» символикой. К примеру награждал Георгиевскими крестами с соответсвующей лентой колоборантский «Русский корпус на Балканах». Казаки под командованием генерала Вермахта Петра Краснова носили «георгиевский» чёрно-оранжевый шеврон в форме трёхугольника на своей форме. «Русская освободительная народная армия» (РОНА), она же 29-я гренадёрская дивизия СС (Русская №1) с 1943 году имела отличительный знак – нарукавный щит с чёрным Георгиевским крестом и жёлтыми буквами «РОНА».

В 2005 году российское пропагандистское агентство «РИА Новости» начало «Народную акцию «Георгиевская ленточка».

Кампания - составная часть идеологической концепции, чтобы затушевать коммунистическую составляющую российского государственного сознания на пользу имперского. Такая «Георгиевская ленточка» служит образом восстановления российской имперской идентичности на как можно большем пост-советском пространстве.

Стоит ли использовать «колорадский» символ решать вам, однако Победа беларуского народа над фашизмом в нашей стране должна проходить под другим символом. На Украине такой символ уже придумали - это красный мак. Его решили использовать, чтобы покончить с советским и имперским прошлым.

korrespondent.net

## В ДОНЕЦКОЙ ОБЛАСТИ С НАЧАЛА МАССОВЫХ ПРОТИВОСТОЯНИЙ ПОГИБЛО 49 ЧЕЛОВЕК

**В больницы с огнестрельными ранениями доставлены 245 пострадавших.**



С начала массовых противостояний в регионе погибли 49 человек, сообщили в департаменте здравоохранения Донецкой облгосадминистрации в понедельник, 12 мая.

«С начала массовых противостояний в регионе (13 марта), включая антитеррористическую операцию, в Донецкой области погибли 49 человек»,- говорится в сообщении пресс-службы ДонОГА.

В больницы с огнестрельными ранениями были доставлены 245 пострадавших. Всего за данный период госпитализировались 150 человек, из них по состоянию на утро 12 мая в стационарах оставались 65.

lenta.ru

## РУССКАЯ ПРАВОСЛАВНАЯ ЦЕРКОВЬ ОБЕСПОКОИЛАСЬ РЕЗУЛЬТАТАМИ «ЕВРОВИДЕНИЯ»

**В Русской православной церкви выразили обеспокоенность в связи с победой на «Евровидении-2014» представительницы Австрии бородатого трансвестита Кончиты Вурст (Conchita Wurst).**



«Это еще одно звено в цепи культурной легитимизации порока в современном мире, попытка закрепления новых культурных норм. Процесс легализации того, что Библия именует не иначе, как мерзость — уже давно не новость в современном мире. К сожалению, тенденции в правовом и культурном поле идут параллельными путями, свидетельством чему и являются результаты данного конкурса», — заявил порталу «Интерфакс-Религия» глава синодального Информационного отдела Владимир Легойда.

По его словам, культурное признание явления «даже опаснее правового, так как нередко предшествует ему: право фиксирует или призвано фиксировать ценностные ориентации общества».

«Соответственно, в современной культуре происходит попытка, увы, вполне успешная, по перемене нравственных и культурных ценностей. Поэтому мне кажется очень странным, когда я слышу в качестве экспертной оценки слова: «Ничего особенного не происходит». В том-то и дело, что изменения совершенно очевидны не только с позиций традиционных религий», — заявил Легойда.

Образ Кончиты Вурст уходит корнями в далекое Средневековье

Австриец Томас Нойвирт (Thomas Neuwirth), больше известный как Кончита Вурст, стал победителем песенного конкурса «Евровидение-2014». Исполнив песню «Воскресни, словно Феникс» (Rise Like a Phoenix), он набрал по итогам голосования 290 баллов и оставил своих соперников далеко позади.

В воскресенье Нойвирта поздравил президент страны Хайнц Фишер (Heinz Fischer). По словам главы государства, «это не только победа Австрии — прежде всего это победа толерантности в Европе». К поздравлениям президента в воскресенье присоединились и лидеры политических партий страны, за исключением крупнейшей оппозиционной политической силы — правой Партии свободы.



Ядвіга Лютова

## МАГІЛЁЎСКІЯ БІБЛІЯТЭКІ АДРАДЖАЮЦЬ ТРАДЫЦЫЮ ПРАВЯДЗЕННЯ АГУЛЬНАГАРАДСКІХ ПАЭТЫЧНЫХ ВЕЧАРОЎ, ПРЫСВЕЧАНЫХ ВЯДОМЫМ ЛІТАРАТАРАМ

**Бібліятэкі Магілёва рэалізуюць праект «Жывая класіка», прысвечаны памяці знакамітых беларускіх і рускіх паэтаў.**

Як паведаміла дырэктар Цэнтралізаванай сістэмы дзяржаўных публічных бібліятэк Магілёва Галіна Краўчанка, мэтай праекта з'яўляецца набліжэнне ўсялякімі спосабамі творчасці класікаў літаратуры да нашых сучаснікаў, найперш да моладзі і падлеткаў.




24 красавіка ў магілёўскай Ратушы прайшоў другі гарадскі паэтычны вечар. Ён быў прысвечаны творчасці паэтэсы Ганны Ахматавай і зваўся паэтычнай рапсодыяй «Я стала песняй і лёсам…». Кіраўніцтва бібліятэк вырашыла яго арганізаваць пасля ўдала праведзенага ў пачатку лютага вечара, прысвечанага Аркадзю Куляшову «Асуджан я любоўю пажыццёва».

«Мы нават не думалі, што будзе такі аншлаг. Аншлаг быў на вечары Аркадзя Куляшова, і аншлаг быў цяпер. Былі людзі як старэйшага ўзросту, так і моладзь. І ўдзельнікі нашага паэтычнага вечара таксама моладзь. Гэта выдатна, калі моладзь для моладзі праводзіць такія вечары», — адзначыла Галіна Краўчанка.

Сёння гучалі вершы, паэмы, проза, вытрымкі з дзённікаў і перапіскі Ганны Ахматавай, былі зачытаныя водгукі і сведчанні сучаснікаў. Музычныя нумары дапаўнялі вобразную карціну яе паэзіі.

«Гэта толькі першы год нашага праекта «Жывая класіка». Думаю, што ён будзе працягвацца гады два-тры. Магіляўчане засумавалі па такіх паэтычных вечарах. І, напэўна, мы своечасова адчулі гэту сітуацыю і падаравалі ім магчымасць так камерна ў такой прыгожай зале пачуць вершы вядомых рускіх і беларускіх паэтаў», — адзначыла агенцву БелаПАН дырэктар магілёўскіх бібліятэк.

Паводле яе, наступны паэтычны вечар запланаваны на лістапад гэтага года і будзе прысвечаны Марыне Цвятаевай.

## ПАДЗЯКА ТБМ

У свой час кіраўніцтва ТБМ праз СМІ звярнулася за падтрымкай да грамадзян Беларусі і іншых краін у сувязі з павелічэннем аплаты за сядзібу ТБМ у тры разы. Нягледзячы на тое, што з красавіка гэтага 2014 года арэндная плата зноў павялічылася і дасягнула 10 мільёнаў 771 тысячы 200 рублёў, дзякуючы грамадскай падтрымцы мы можам утрымліваць офіс ТБМ у цэнтры Мінска.

Сярод ахвярадаўцаў мы хочам адзначыць у першую чаргу нашых пастаянных фундатараў і ахвярадаўцаў. Сярод іх – Андрэй Міцкевіч, Павел Бераговіч з Таліна, сям'я Прыгожыных з Масквы, Фелікс Шкірманкоў са Слаўгарада, Алег Лягушаў са станцыі Ясень Асіповіцкага раёна, Юлія Пухоўская, Віктар Данілюк, Павел Чайкоўскі, Ірына Прылішч, Тамара Лазарук, Анатоль Чачотка, Іван Кукавенка, Мікола Бамбіза, Валянціна Вяргей, Таццяна Раманюк з Мінска, Анатоль Краўчанка з Мінска, Аляксандра Восіпава з Гомеля, Людвіка Таўгень з Валожына, Роза Рымар, Лілія Некраш, Зміцер Мартынчык з Гродна, Васіль Рагаўцоў з Магілёва, Антон Фурс з Паставаў, Сяргей Птушко з в. Хільчыцы Жыткавіцкага раёна, клуб "Спадчына" з в. Дварэц Дзятлаўскага раёна, сябры клуба "Прамова" з Мінску, Мар'ян Місевіч з м. Падсвілле Глыбоцкага раёна, сябры ТБМ з Наваполацка, Надзея Барт-Юрэвіч з Германіі, Кухаронак Аляксандр са Смілавіч, Касцюкевіч Зміцер з Чэрвеня, Уладзімір Мануленка з Брэста, Васіль Усціновіч з п. Лясны Мінскага раёна і многія іншыя.

Поўныя спісы ахвярадаўцаў мы рэгулярна друкуем у газеце «Наша слова» і выстаўляем на партале ТБМ http://tbm-mova.by. Для тых, хто хоча падтрымаць ТБМ паведамляем наш рахунак ТБМ 3015741233011 код 739 у аддзяленні №539 ААТ «Белінвестбанка» УНП 100129705.

Старшыня ТБМ,

Алег Трусаў



Яўген Калмач

## ЮРЫСТ АЛЯКСАНДР ХАМРАТАЎ АБВІНАВАЧВАЕ СУД КАСТРЫЧНІЦКАГА РАЁНА МАГІЛЁВА Ў НЕПРАВАМЕРНАЙ ЗАКРЫТАСЦІ

**Магілёўскі юрыст і праваабаронца Аляксандр Хамратаў абвінавачвае Кастрычніцкі суд Магілёва у неправамернай закрытасці.**



Паводле яго, пасяджэнні па адміністрацыйных справах у судзе спрабуюць зрабіць закрытымі. Да такой высновы Хамратаў прыйшоў пасля таго, як 3 красавіка яго не дапусцілі на пасяджэнне па адміністрацыйнай справе, якое вяла суддзя Наталля Крашкіна.

«Акалічнасці справы, якая цікавіць мяне, заключаліся ў тым, што ДАІ пакарала грамадзяніна, абвінавачаўшы яго ў кіраванні аўтамабілем у стане алкагольнага ап'янення, штрафам у 15 мільёнаў рублёў і пазбаўленнем вадзіцельскага пасведчання на тры гады. Пры тым, што пры першапачатковым вымярэнні алкаголю ў крыві нічога знойдзена не было, толькі праз некалькі дзён паўторная медыцынская экспертыза ўстанавіла ў яго больш за 0,3 праміле. Грамадзянін не пагадзіўся з пастановай аб штрафе і падаў у суд», — паведаміў Хамратаў.

Паводле юрыста, калі ён прыйшоў на судовае пасяджэнне, каб даведацца, якім жа будзе вердыкт, суддзя Крашкіна не дапусціла яго як гледача, растлумачыўшы гэта тым, што яна яго не запрашала. Спасылкі на адкрытасць судовых пасяджэнняў на яе ніякага эфекту не зрабілі, дадаў Хамратаў.

Праваабаронца зрабіў адпаведны запіс у кнізе заўваг, але старшыня суда Валерый Мазураў не знайшоў нічога неправамернага ў дзеяннях суддзі Крашкінай. У афіцыйным адказе за подпісам Мазурава сказана: «У адпаведнасці з ч. 2 арт. 12.8 Працэсуальна-выканаўчага кодэкса РБ аб адміністрацыйных правапарушэннях пры разглядзе скаргі на пастанову па справе аб адміністрацыйным правапарушэнні мае права прысутнічаць асоба, у дачыненні да якой вынесена пастанова аб адміністрацыйным правапарушэнні, пацярпелы, іх прадстаўнікі, абаронца». Паколькі Хамратаў не адносіўся да названых асоб, а прысутнасць іншых грамадзян артыкулам не прадугледжана, яму было правамерна адмоўлена ў знаходжанні пры разглядзе адміністрацыйнай справы, растлумачыў старшыня райсуда.

У сваю чаргу Хамратаў сцвярджае, што згодна з гэтым артыкулам кодэкса «асоба, у дачыненні да якой вынесена пастанова па справе аб адміністрацыйным правапарушэнні, пацярпелы, іх прадстаўнікі, абаронца маюць права прысутнічаць пры разглядзе скаргі (пратэсты), даваць тлумачэнні і падаваць дадатковыя матэрыялы для абгрунтавання сваіх патрабаванняў». Такім чынам, дзеянні суддзі парушылі прынцып адкрытасці судовых пасяджэнняў, зазначае юрыст.

«Апрача таго, што адказ з суда з'яўляецца юрыдычна няправільным, мяне таксама насцярожыла, што яны паспрабавалі мяне запалохаць, — заявіў Хамратаў. — Старшыня Кастрычніцкага суда ў сваім адказе сказаў, што я нібыта ўмешваюся ў працу суддзі і нейкім незразумелым чынам спрабую ўздзейнічаць на суд з мэтай дамагчыся неабходнага мне рашэння. Я толькі хацеў як глядач прысутнічаць, а на мяне ўжо навесілі кучу ярлыкоў, што я нейкі парушальнік, які чагосьці дабіваецца ад суда».

На падставе адказу старшыні райсуда Хамратаў падаў скаргу ў Магілёўскі абласны суд.

## МАГІЛЁЎСКІЯ ЎЛАДЫ ПАЧАЛІ НАВОДЗІЦЬ ПАРАДАК У ПУСТУЮЧЫХ ДАМАХ ПРЫВАТНАГА СЕКТАРА

**Юрыдычны аддзел гарвыканкама паведамляе, што на дадзены момант праходзіць праверку 120 адрасоў. Некалькі сотняў чакаюць сваёй чаргі.**

Мясцовыя ўлады плануюць канфіскоўваць пустуючыя дамы, якія не маюць гаспадароў. У большыні выпадкаў гэта элементы падмуркаў згарэўшых дамоў.

У гарвыканкаме паведамляюць, што дадзены працэс ідзе вельмі марудна, бо афармленне дадзенай працэдуры вымагае падрыхтоўкі вялікага пакета дакументаў. На дадзены момант выпрацоўваецца алгарытм і сістэматызацыя дзеянняў разнастайных службаў.

Калі пустуючыя дамы будуць прызнаныя нічыйнымі, напрыклад, гаспадар дома памёр, а спадкаемцаў у яго няма, то зямельныя надзелы будуць перадавацца жыльцам, якія маюць патрэбы ў паляпшэнні сваіх жыллёвых умоваў.

Чыноўнікі таксама адзначылі, што многія грамадзяне пасля з'яўлення інфармацыі аб канфіскацыі закінутых дамоў і ўчасткаў пачалі прыводзіць іх у парадак.

Дадзенае пытанне ўзяў пад свой асабісты кантроль кіраўнік гарвыканкама Уладзімір Цумараў, паведамляюць «Магілёўскія ведамасці».



Пан Тадеуш

## У МАГІЛЁВЕ ЖЫХАРЫ ЗАПЛАНАВАНЫХ ДА ЗНОСУ ДАМОЎ СУДЗЯЦЦА З ЧЫНОЎНІКАМІ

**У Магілёве 35 жыхароў сямі дамоў па вуліцы Крупскай 25 красавіка звярнуліся ў суд Ленінскага раёна, патрабуючы прызнаць незаконным рашэнне гарвыканкама аб зносе гэтых будынкаў як непрыгодных для пражывання.**



Нагадаем, раней жыхары сямі дамоў па вуліцы Крупскай запатрабавалі ад гарадскіх уладаў адмяніць рашэнне аб зносе гэтых будынкаў, прынятае, як яны лічаць, незаконна. Грамадзяне сцвярджаюць, што Магілёўскі гарвыканкам неабгрунтавана і тайна прыняў 26 снежня 2013 года рашэнне аб непрыгоднасці іх кватэр для жылля, акты ж абследавання кватэр у 2013 годзе не адпавядаюць рэчаіснасці. Прадстаўнікі ўлады сцвярджаюць адваротнае, заяўляючы, што ўсе іх дзеянні законныя.

«Мы не згодныя з рашэннем, што нашы дамы непрыгодныя для жылля. У нас усё добра ў кватэрах. Наш дом, да прыкладу, ніхто не глядзеў, не правяраў. Мы хадзілі ў гарвыканкам і глядзелі акты праверак — там вельмі шмат неадпаведнасцей», — расказала адна з жыхарак запланаваных да зносу дамоў.

Паводле яе, жыхары прыватызаваных кватэр, прызнаных старымі, падлягаюць перасяленню у арэнднае жыллё з кампенсацыяй. Жыхары неприватызаваных таксама не маюць права адмовіцца аб прапанаванага жылля, аднак могуць прыватызаваць атрыманую кватэру да 2016 года. Калі ж і тыя і другія высяляюцца па прычыне передачы зямлі пад дзяржаўныя патрэбы, то там умовы перасялення зусім іншыя.

«Калі зямля, на якой стаяць дамы, ідзе для дзяржаўных патрэб, то гэта зусім іншая справа: калі ў чалавека ўласнае жыллё, то ён выбірае раён і яму даецца прыватызаваная кватэра. А калі ў яго непрыватызаваная кватэра, то яму выдаецца кватэра на ўсіх прапісаных па 15 квадратаў», — адзначыла жанчына.

У снежні 2013 года старшыня Магілёўскага гарвыканкама Уладзімір Цумараў на прэс-канферэнцыі заявіў, што на месцы былога ваеннага гарадка па вуліцы Крупскай будзе пабудаваны новы мікрараён з гандлёвым цэнтрам. Тым не менш у сакавіку на сустрэчы з жыхарамі запланаваных да зносу дамоў намеснік начальніка гарадскога аддзела жыллёва-камунальнай гаспадаркі Аляксей Шарай сцвярджаў, што яму нічога не вядома пра будаўніцтва.

«Я ўпэўнена, што гэта зямля патрэбна для дзяржаўных патрэб, таму што ўсе камунікацыі пракладзены. У нас знеслі дом № 8. Яго таксама прызналі непрыгодным. Там ужо ўсе камунікацыі. Гэта ўсім бачна. Тэрыторыя ваеннага гарадка ўся перакапаная, пракладзены камунікацыі, а нам усё адказваюць, што нічога там будавацца не будзе», — гаворыць жанчына.

Першае пасяджэнне суда Ленінскага раёна па скарзе жыхароў намечана на 10.00 19 траўня.

У папярэднім нумары "Наш Магілёў" пісаў пра тое, што адвакатка адной з жыхарак запланаваных да зносу дамоў Наталля Мяцеліца падала скаргу ў пракуратуру на чыноўнікаў Магілёўскага гарвыканкама, якія, на яе думку, перашкаджаюць ажыццяўленню яе адвакацкай дзейнасці. У скарзе Мяцеліца паведамляла аб тым, што чыноўнікі не дазвалялі ёй фатаграфаваць дакументы, якія адносіліся да справы яе падабаронай.

gazetanm.eu

### У МАГІЛЁВЕ РАМОНТ ПУШКІНСКАГА МАСТА ПРАЗ ДНЕПР ПАЧНЕЦЦА Ў ЛІСТАПАДЗЕ

**Пра гэта паведаміў намеснік старшыні Магілёўскага гарвыканкама Сяргей Дзядовіч.**

У жніўне ж плануецца распачаць падрыхтоўчы этап. На дадзены момант "Інстытут "Гроднаграмадзянпраект"" ужо вызначыўся з варыянтам рэканструкцыі маста.

Паводле праекта канчатковы варыянт маста выглядае шасціпалосным. Рух транспарта будзе здзяйсняцца па трох палосах у кожным напрамку.

Разам з мастом будзе адбывацца рэканструкцыя Дняпроўскага спуска і Пушкінскага праспекта на ўчастку ад маста да павароту на вуліцу Гагарына.

На рэалізацыю архітэктурнага праекта з гарадскога бюджэта выдаткавана 4 мільярды рублёў, паведамляюць «Магілёўскія ведамасці».

Паўнамаштабныя рамонтна-будаўнічыя працы пачнуцца тады, калі будзе адкрыты Шмідтаўскі мост, які на дадзены момант знаходзіцца на рэканструкцыі.

### МАГІЛЁЎСКІЯ ПАСАЖЫРАПЕРАВОЗЧЫКІ ДЭМПІНГУЮЦЬ

**Праезд Магілёў-Мінск на мікрааўтобусах патаннеў на 30 тысяч рублёў і каштуе замест 100 тысяч - 70 тысяч рублёў.**

Аўтаперавозчыкі «Аўтаслава», «Дзьве сталіцы», «Сталіца плюс», «Ваш экспрэс» і «Гранд экспрэс» калектыўна ўступілі ў змову і сумесна знізілі кошт праезду да сталіцы. Звязана гэта з тым, што ў Магілёве з'явілася новая фірма-пасажыраперавозчык «Новая лінія».

«Новая лінія» прапануе праезд да сталіцы за 100 тысяч рублёў. Аднак аператар адзначыла, што да канца лета дзейнічае зніжка ў 10% ад кошту білету. Адзіная навізна заключаецца ў тым, што ўсе пасажырскія мікрааўтобусы абсталяваны бясплатным вай-фаем.

■ Вітольд Няўрыда

## У МАГІЛЁВЕ ПРАЙШЛІ ДЗВЕ АКЦЫІ, ПРЫСВЕЧАНЫЯ ПАМЯЦІ АХВЯРАЎ АВАРЫІ НА ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АЭС

**У Магілёве каля мемарыяльнага знака «Ахвярам Чарнобыля» на тэрыторыі псіхіятрычнай бальніцы ў Любужы 26 красавіка прайшоў афіцыйны жалобны мітынг, прысвечаны памяці ахвяраў катастрофы на ЧАЭС. Магілёўскія дэмакраты правялі акцыю ля крыжа ў памяць ахвяр Чарнобыльскай катастрофы паблізу Лаўсанаўскіх могілак.**



У афіцыйным мітынгу ўзялі ўдзел каля 300 чалавек — у асноўным навучэнцы магілёўскіх установаў адукацыі, супрацоўнікі МНС, прадстаўнікі грамадскасці. Успамінаючы пра трагічныя падзеі 28-гадовай даўніны, старшыня Магілёўскага гарвыканкама Уладзімір Цумараў зазначыў, што падчас Вялікай Айчыннай вайны нямецкія захопнікі знішчылі 619 беларускіх вёсак, а ў выніку Чарнобыльскай катастрофы рэспубліка страціла 485 населеных пунктаў. «Агульны ўрон катастрофы ў разліку на 30-гадовы перыяд яе пераадолення сёння ацэньваецца ў 235 млрд. долараў, што роўна трыццаці двум бюджэтам краіны 1985 года», — сказаў гараданачальнік.

Ён прывёў словы Аляксандра Лукашэнкі аб тым, што жыццё рэгіёнаў, што пацярпелі ад аварыі на ЧАЭС, павінна ўвесь час быць пад пільнай увагай уладаў. «Толькі ў 2013 годзе на выкананне мерапрыемстваў дзяржаўнай праграмы па пераадоленні наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС выдзелена больш як 3,5 трлн. рублёў», — паведаміў Цумараў, падкрэсліўшы, што такія дзеянні дазваляюць захоўваць дынаміку развіцця пацярпелых раёнаў, стварацъ годныя ўмовы для жыцця людзей і гарантаваць іх бяспеку.

«Трагедыя Чарнобыля — гэта ўрок для ўсяго свету. На жаль, гэты ўрок асвоены чалавецтвам недастаткова поўна. Катастрофа японскай «Фукусімы» паказала, што, якімі б інавацыйнымі тэхналогіямі не валодала чалавецтва, магутным і хуткім ні быў бы тэхнічны прагрэс, супраць прыроды чалавек, на жаль, бяссільны. Прырода нехаця адкрывае нам свае тайны, кожны раз папярэджваючы пра тое, што наступны крок можа быць аплачаны многімі жыццямі, і Чарнобыль — гэта вечная засечка на памяць», — заявіў кіраўнік гарадской вертыкалі.

Разам з тым ён зазначыў, што будаўніцтва атамнай электрастанцыі ў Беларусі — гэта аргументаваная і ўзважаная пазіцыя, дзе ўлічаны ўвесь сусветны вопыт, які сведчыць, што ў наступным ядзерная энергетыка стане асноўным сродкам пераадолення глабальнага энергетычнага крызісу.

На мітынгу ўшанавалі хвілінай маўчання загінулых ад Чарнобыльскай катастрофы і памерлых ад яе наступстваў, выказалі словы ўдзячнасці тым, хто прыняў на сябе першы ўдар радыяцыі і ў наступным змагаўся з радыёактыўным агнём. Былі ўскладзены вянкі і кветкі да мемарыяльнага знака ад абласных і гарадскіх уладаў, сілавых структур, ветэранаў, прафсаюзаў, грамадскасці.

Акцыя, якая пачалася аб 11.00, працягвалася каля паўгадзіны.

На акцыю дэмакратаў, якая пачалася а 12.00 і цягнулася прыкладна столькі колькі і афіцыйны мітынг, прыйшло каля 15 чалавек

Як паведаміў на мерапрыемстве старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі Аб’яднанай грамадзянскай партыі Уладзімір Шанцаў, цяперашнія ўлады не дапускаюць да ўдзелу ў акцыі ў Любужы сваіх палітычных апанентаў, баючыся іх выступленняў. «Часта нашы спробы ўзяць удзел заканчваліся затрыманнямі, нягледзячы на тое, што, у прыватнасці, наша арганізацыя з’яўляецца зарэгістраванай, таму мы праводзім сваю акцыю каля крыжа памяці блізу могілак», — расказаў Шанцаў.

Ён таксама зазначыў, што пасля Чарнобыльскай катастрофы ў Беларусь прыйшла новая бяда — будаўніцтва атамнай электрастанцыі ў Астраўцы. Паводле слоў Шанцава, новая электрастанцыя будуецца па неапрабаваным расійскім праекце, з высокай аварыйнасцю, дрэннай надзейнасцю. Таксама не было праведзена ніякіх грамадскіх дыскусій наконт гэтага будаўніцтва, указаў Шанцаў, падкрэсліўшы, што Беларусь усё больш трапляе пад залежнасць ад Расіі.

На думку прадстаўніка Свабоднага прафсаюза Беларускага Юрыя Новікава, для будаўніцтва атамнай электрастанцыі Беларусь проста не гатова, бо з’яўляецца адсталай у тэхналагічных адносінах краінай. «Трэба развіваць альтэрнатыўную энергетыку, больш бяспечную, якая не патрабуе вялікіх укладанняў па будаўніцтве і абслугоўванні», — сказаў апазіцыянер.

Таксама ён указаў, што ўладамі ўсё больш замоўчваюцца праблемы Чарнобыля — у забруджаных раёнах жывуць людзі, там жа ўведзены ў сельгасабарот землі, а вырашчаная прадукцыя ідзе ў ежу.

Прадстаўнікі дэмакратычных арганізацый, якія прыйшлі на акцыю, ўсклалі кветкі да памятнага крыжа, быў прачытаны малебен.



■ Станіслаў Дубовік

## «ШКЛОЎСКІ МАГІСТРАТ» ПРАПАНАВАЎ РАЁННЫМ УЛАДАМ СТВАРЫЦЬ У ГОРАДЗЕ ЭКАНАМІЧНУЮ ЗОНУ

**У Шклове грамадская ініцыятыва «Шклоўскі магістрат» накіравала зварот раённым уладам з прапановай стварыць у горадзе своеасаблівую эканамічную зону.**



Як паведаміў кіраўнік «Шклоўскага магістрата» Рыгор Кастусёў, з ініцыятывай аб стварэнні такой эканамічнай зоны райвыканкаму варта выступіць перад кіраўніцтвам краіны. У перспектыве стварэнне такіх эканамічных зон можна было б распаўсюдзіць на іншыя гарады, якія мелі ў мінулым Магдэбургскае права.

«Грамадская ініцыятыва гатова падаць на разгляд шэраг сваіх прапаноў па развіцці Шклоўшчыны», — адзначыў Кастусёў.

Акрамя таго, «Шклоўскі магістрат» прапанаваў устанавіць на гарадской ратушы таблічку з інфармацыяй аб тым, што ў мінулым Шклоў меў Магдэбургскае права, а 10 красавіка 1762 года гораду была пацверджана прывілея на стварэнне органа самакіравання — магістрата з атрыманнем герба і пячаці.

Ініцыятыва «Шклоўскі магістрат» была створана ў раённым цэнтры 10 красавіка па прыкладзе “Грамадскага магістрата”, які дзейнічае ў Магілеве ўжо некалькі гадоў. «Асноўная мэта дзейнасці «Магістрата» — данесці мясцовым уладам інфармацыю аб магчымасцях эканамічнага развіцця Шклоўскага раёна. У нас ёсць шмат напрацовак, як палепшыць эканамічную сітуацыю, на што раённым уладам трэба звярнуць увагу, каб раён эканамічна стаў мацнейшым», — сказаў Рыгор Кастусёў.

Паводле яго, зараз эканамічная сітуацыя ў Шклоўскім раёне не паляпшаецца, раён пакідаюць замежныя інвестары. «Нядаўна сышлі літоўскія інвестары, і гэтыя працэсы працягваюцца», — сцвярджае Кастусёў.

■ Якуб Корсак

## У МАГІЛЁВЕ ВАДЗІЦЕЛЯМ ПРЫВАТНЫХ АЎТО ПРАПАНУЕЦЦА ПАДВОЗІЦЬ ПАСАЖЫРАЎ БЯСПЛАТНА

**Магілёўскі Цэнтр гарадскіх ініцыятыў заклікаў вадзіцеляў дапамагаць сугрaмадзянам, падвозячы іх на сваіх аўтамабілях бясплатна.**




«Людзі павінны дапамагаць адзін аднаму. Няхай больш размаўляюць, больш адзін аднаму дапамагаюць, узаемадзейнічаюць у вырашэнні простых і цяжкіх праблем», — заявіў тэхнічны дырэктар цэнтра Аляксандр Лазараў.

Ён сказаў, што ідэя бясплатнага падвозу пасажыраў запазычана за мяжой. «У расійскіх гарадах яна ўзнікла ў розны перыяд, у ЗША гэта нармальная практыка», — зазначыў актывіст.

Паводле яго, зараз вядзецца інфармацыйная падрыхтоўка гэтай бестэрміновай кампаніі, у прыватнасці, у сацыяльных сетках, дзе ідэя атрымала «нечакана станоўчы водгук». Разам з тым, паводле сцвярджэння Лазарава, ужо ёсць прыклады рэальнай рэалізацыі задумкі, калі вадзіцелі размяшчалі адпаведныя таблічкі на сваіх аўтамабілях і падвозілі іншых людзей.

Актывісты цэнтра прапаноўваюць вадзіцелям, якія бяруць удзел у кампаніі, прымацоўваць на ўласныя аўтамабілі спецыяльныя таблічкі са словамі «Давязу дарам» з указаннем часу, пачатковага і канцавога пункта свайго маршруту.

«Але калі для кагосьці гэта занадта, то зусім не абавязкова неяк вызначацца. Якіхсьці адметных знакаў таксама не прадугледжана. Мы мяркуем, што любы чалавек, які такім чынам кагосьці падвозіць, — удзельнік нашага руху», — сказаў прадстаўнік Цэнтра гарадскіх ініцыятыў.

Таксама зусім не абавязкова падвозіць чалавека, рухаючыся па сваім загадзя вызначаным маршруце — няма ніякай праблемы, калі нехта з вадзіцеляў захоча змяніць маршрут дзеля пасажыра, зазначыў БелаПАН Аляксандр Лазараў.